

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
М19

Мастак Міхась Дайлідаў

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ISBN 978-985-02-1899-5



***Малочная прадмова,***
***якая не выпадае, як выпадаюць малочныя зубы***

Усе людзі падзяляюцца на тых, хто любіць малако, і тых, хто яго не любіць. Тыя, што любяць малако, не могуць зразумець, як іншыя не п’юць гэткі смачны ды карысны прадукт. А тыя, што малако не любяць, разважаюць: «І як яны п’юць гэтую белую нясмачную вадкасць?» І нічога тут не паробіш, трэба прымаць людзей такімі, якія яны ёсць. Не п’юць малака твае брацік альбо сястрычка, дык і цудоўна — табе болей застанецца. А як таксама моцна любяць — тады ў цябе будзе шчасце падзяліцца.

Вядома ж, і з тымі, хто не можа без малака жыць, і з тымі, хто жыць без яго можа, здараюцца самыя неверагодныя гісторыі. Але гэтым разам аповед будзе пра дзяўчынку, якая не любіла піць малако. Трэба прызнаць, што аматарам малака жывецца нашмат лягчэй, бо ладная частка мам пэўная ў тым, што іхныя дзеці мусяць ужываць гэты самы напой. А тыя мамы, чые дзеці малако не любяць, пачынаюць схіляць ды намаўляць дзетак выпіць карыснага прадукту. Зазвычай намаўляюць выпіць шклянку альбо кубак. І ніякія «ці можна я трошкі вып’ю» альбо «ці можна я вып’ю палову» не дапамагаюць, бо вымагаюць піць дарэшты.

***Знаёмства з галоўнай гераіняй,***
***якая любіла ўсё, апрача малака***

Дзяўчынку, якая не сябравала з малаком, назвалі адным з найпрыгажэйшых беларускіх імёнаў — Альдона. Але, калі перад Альдонай з’яўлялася шклянка малака, якую патрэбна выпіць да дна, яна маркотна бачыла ў сваім імені «дна» — альДоНА. Каб хоць неяк расцерушыць свае сумныя думкі, дзяўчынка сядала піць малако пры камп’ютары: каўтне, пагуляе і зноў сербане...

Неяк Альдона гэтак загулялася, што забылася малако выпіць. Але напою ў кубку... не было. Яна падумала, што выпіла ды запамятавала, але ж і смаку нялюбага малака ў роце не адчувала. Здзіўленая, але ўсцешаная Альдона занесла парожні кубак на кухню.

***З'яўленне галоўнага героя з дзвюма залатымі плямкамі і адным хвастом***

Калі дзяўчынка вярнулася, дык пабачыла на маніторы набраныя словы:

«ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА МАЛАКО».

— Калі ласка! — мімаволі мовіла Альдона, а тады схамянулася.— Хто тут хаваецца?

Яна нават не здолела закрычаць, калі з-за музычных калонак выпаўзла... змяя. Не здолела, па-першае, ад жаху. І тое зразумела — амаль кожны з тых, хто цяпер чытае кнігу ў гэтым месцы, на месцы Альдоны пачуваўся б гэтаксама. Уявіце сабе: седзіце вы ў сваім утульным пакойчыку, дзе знаёмая кожная драбніца, і знячэўку можа тут з'явіцца хіба што муха альбо камар. Але замест іх — змяя! Уявілі? Вось і я пра тое. Палова ўсчала б верашчаць так, што шыбы зазвінелі б. А ў другой паловы папросту горла перагне. Вось гэтак адбылося і з нашай гераіняй. А па-другое, не закрычала яна праз тое, што змяя адным духам адбіла на клавіятуры сваім хвастом:

«НЕ ПАЛОХАЙСЯ. Я ВУЖ».

Гэтая інфармацыя сталася дужа карыснай, а галоўнае — супакаяльнай. Вядома ж, вуж — не гадзюка якая альбо, барані божа, кобра! У нас хоць тыя каптуровыя не вядуцца, але ці мала што можа спрычыніцца! Вось нядаўна ў рэчцы піранню злавілі. Здавалася б, Амазонка занадта далёка ад Беларусі плыве, ды і клімат наш дужа розніцца ад трапічнага. Але, як высветлілася, паўднёвы драпежнік апынуўся ў Свіслачы праз тое, што ягоны гаспадар, акварыуміст, вырашыў пажартаваць. І пажартаваў, выпусціўшы рыбку ў нашую раку. Во ўжо галасу было! Усе газеты пра тое пісалі. А некаторыя грамадзяне ўсё лета купацца лякаліся.

Але вернемся да нашае гераіні. Прачытаўшы словы на маніторы, Альдона прыгледзелася пільна да дзівоснага госця, які нікуды не спяшаўся. Змяя разгарнулася і нібы давала магчымасць разгледзець сябе з усіх бакоў. Нашу Альдону болей за ўсё цікавіла змяіная галава.

— Ага...— працягнула Альдона, пачухаўшы вуха,— ёсць! Але ж колер...

Рэч у тым, што дзяўчо заўважыла дзве залатыя плямы на ягонай галаве. Яна ведала, што вужы розняцца ад гадзюк тым, што ў іх каля вушэй бываюць жоўтыя, белыя альбо памаранчавыя плямы. Але ж тут залатыя...

***Сучасны Вужыны Кароль, які традыцыйна любіць малако***

А Вуж тым часам далей дэманстраваў свае незвычайныя і надзвычайныя здольнасці, ад якіх у кожнага чалавека галава закруціцца. Ён пастукаў сваім хвастом па клавішах:

– КАЛІ ХОЧАШ НЕШТА ЗАПЫТАЦЦА, ЗАПЫТВАЙСЯ. Я НЕ ЎМЕЮ РАЗМАЎЛЯЦЬ. АЛЕ ЎМЕЮ НАБІРАЦЬ НА КАМП'ЮТАРЫ.

— Во дзівосы! — Пахітала галавою Альдона, не зводзячы з яго вачэй.— Дзівосы на калёсах...

Гэткую прымаўку любіў паўтараць ейны дзядуля, які жыў на Палессі, на беразе Прыпяці паблізу Лунінца. Штогод падчас вакацыяў Альдона бавіла там вольны час і вярталася дахаты з процьмаю розных уражанняў, прымавак ды падарункаў.

— А чаму ў цябе залатыя плямкі? — крыху ачомаўшыся і ачуняўшы, задала першае пытанне гаспадыня.

– БО Я ВУЖЫНЫ КАРОЛЬ,– з'явіўся адказ на экране. (Альдона ўжо здагадалася, чаму ўсе літары ў Вужынага Караля атрымліваюцца вялікія: ён жа не ў стане адначасна адным хвастом націскаць на дзве клавішы. А са знакаў прыпынку ён мог стаўляць толькі кропку і тры кропкі, то бок шматкроп'е.)

Усё тое, што адбывалася, нагадвала хутчэй нейкую казку альбо сон. Але такой казкі Альдона ніколі не чытала. Наконт другога — ёй сапраўды падавалася, што зараз падзеі перапыняцца і яна прачнецца. Бо не можа такога адбывацца напраўду. Але ж адбываецца...

— А як ты тут апынуўся? — пытанняў у Альдоны са з'яўленнем «госця» паўстала так шмат, што імі магчыма было б наладаваць цэлы вагон і ўсё адно яны яшчэ заставаліся б. Але ж трэба з нечага распачынаць.

– ДАЎНЕЙ ЛЮДЗІ ШАНАВАЛІ ВУЖОЎ. ЯК НІКОГА ІНШАГА. МЫ БЫЛІ ДОБРЫМ ЗНАКАМ. АБЯРЭГАМ. І ТОЙ. У КАГО ПАСЯЛІЎСЯ ВУЖ. ГАНАРЫЎСЯ ТЫМ І НАМАГАЎСЯ ЗРАБІЦЬ УСЁ. КАБ ГОСЦЬ ЗАСТАЎСЯ Ў ЯГО НАЗАЎСЁДЫ. ТРЫМАЛІ ВУЖОЎ У ХАТАХ ПАД ПЕЧЧУ. ГЭТА БЫЛІ ТАКІЯ ВУЖЫНЫЯ ХАТКІ. А КАЛІ НАДЫХОДЗІЎ ЧАС ПАЛУДНАВАЦЬ. ВУЖ ВЫПАЎЗАЎ І ЕЎ РАЗАМ З ДЗЕЦЬМІ.

— Дык жа ў нашай хаце няма печы?! — Нібыта, сумляваючыся, агледзелася Альдона.

Не, яна, натуральна, ведала, што ў кватэры шматпавярховіка ніякай печы няма і быць не можа, але пасля таго, што з ёй адбылося, няцяжка, хай на імгненне, засумнявацца ўва ўсім.

– ВЯДОМА Ж. НЯМА. АЛЕ Я СУЧАСНЫ ВУЖЫНЫ КАРОЛЬ. ТАМУ БУДУ ЖЫЦЬ ПАД КАМП'ЮТАРАМ. НЕ. КАЛІ ТЫ СУПРАЦЬ. ТО Я СЫДУ І ПАЖЫВУ Ў КАГО ІНШАГА.

— Не-не-не! — Ажно ўскочыла Альдона, замахаўшы рукамі, не раўнуючы вятрак пад Наваградкам.

Яшчэ чаго — вужыны кароль будзе жыць у некага іншага! Такое здараецца толькі раз у жыцці. Ды што раз — напэўна, ні з кім іншым у нашыя часы такога не адбудзецца...

— Наадварот,— дадаўшы ў голас пераканаўчасці, даводзіла госцю дзяўчынка,— я страшэнна ўсцешаная. Так што ты нават і не думай нічога такога!

– ДЫ Я ЎЖО ЗРАЗУМЕЎ. ШТО ЎСЦЕШАНАЯ. ПАГАТОЎ ТЫ МНЕ КУБАК МАЛАКА НАЛІЛА. ХОЦЬ РАНЕЙ ВУЖУ ЦЭЛЫ ЗБАН СМАКАТЫ СТАЎЛЯЛІ.

Альдона была памкнулася сказаць, што нічога яна не стаўляла, што гэта выпадкова атрымалася, што малака яна трываць не можа, але збаялася, што Вужыны Кароль пакрыўдуе, і гэтыя, зусім не абавязковыя, словы не прагучалі.

— Дык тады пачнем уладкоўвацца,— пляснула яна ў ладкі,— жытло трэба зрабіць утульным. У мяне ж ведаеш колькі ўсяго — цацачнага і не толькі, каб Вужынаму Каралю прыйшлося даспадобы!

Гэтак у свеце з'явіліся яшчэ двое сяброў, пра якіх і пойдзе нашая далейшая гаворка. Бо ўсё ж, як вы, напэўна, зразумелі, толькі распачынаецца. Яшчэ адна мама перастала турбавацца за дачку. Здарылася нешта надзвычайнае. Пра гэта мама апавядала сваім сяброўкам — вось, маўляў, дачка паразумнела і зразумела. А рэч у тым, што ў дачкі цалкам змяніўся густ. Калі дагэтуль яна крывелілася на малако, як серада на пятніцу, дык цяпер дзяўчо пачало выпіваць усё малако, якое было ў доме, і яшчэ прасіць.

— Цудоўна, малайчына,— ківаючы галавою, прамаўляла мама, стаўляючы ў лядоўню кагадзе набыты пачак,— я заўжды ведала, што слушнае выхаванне дасць плён!

***Замова, каб не балелі вочы***

Не, на жаль ці не на жаль (гэта з якога боку паглядзець), але Альдона не палюбіла малако. Густы ейныя ў кірунку піцця і не піцця карыснага напою не змяніліся зусім. І як яна малако не залюбіла, гэтак меркаванне свайго не змяніла. Прынамсі пакуль што. Затое цяперака ў змаганні з тым, што клапатліва стаўляла на стол Альдоніна мама, дзяўчынка займела, так бы мовіць, надзейнага хаўрусніка і дарадцу. Ахвотна і з радасцю ёй дапамагаў новы сябра, які да таго ж ведаў усе народныя традыцыі і добра знаўся ў камп'ютары. І як неўзабаве высветлілася і выявілася, дапамога сяброўская прыходзіць, калі тое сапраўды патрэбна. Дык жа на тое і існуюць сябры, каб у цяжкую, сумную альбо проста складаную-непрыемную хвілю з'явіцца і прамовіць: «У цябе ж ёсць я». І ты разумееш, што мець сябра — гэта класна, файна і цудоўна. Хіба не так?

Ды што далёка хадзіць, вось адзін такі прыклад, які здарыўся з нашай дзяўчынкай. Некалі бацькі-дзяды сённяшніх дзетак гэтакага клопату не мелі — бо дзе ж ты пра такое даведаешся, як і самой праблемы не існуе? Гаворка тут ідзе пра камп'ютары. Дзеткі ж цяперака, не будзем утойваць, сім-тым злоўжываюць. Вось бацькі ў маленстве злоўжывалі бадзяннем на вуліцы і іншых месцах, часам такіх далёкіх, што бацькам і не дагукацца. Чым яшчэ? Тэлевізара праглядам, ад якога вочы забалець могуць. Сёння

ўжо тэлевізары адсунуліся на другі план. Але ж з'явілася новая праблема — камп'ютар. У яго як дзіця занурыцца-ўталопіцца, дык яго і за вушы не адцягнеш. Так, клопат маем немалы. Тут табе і мульцікі, і фільмы. І гульні ды багата featured рознага іншага — карыснага і не.

Дык вось, бацькоў тады ўдома не было, бацькі — людзі занятыя. І Альдона не ўтрымалася ды праседзела пры камп'ютары куды болей за дазволены час. Тут жа і новая гульня нядаўна з'явілася, і чарговыя серыі пра ўлюбёных герояў… Вось вочы ў Альдоны, калі яна ўсё ж адарвалася ад манітора ды выпадкова зірнула на сябе ў люстэрка, выглядалі чырвонымі, нібы ў вампіра якога. Хоць дзяўчынка ніколі вампіраў жыўцом не бачыла, але пра іх чытала. Альдона паныла пасунулася ў лазенку, паплёскала ў твар халоднай вадою, але ўсё адно вочы і галава балелі, даючы сігнал: «Няможна так з намі чыніць!»

А вярнуўшыся ў пакой, Альдона пабачыла допіс Вужынага Караля. Сябра напісаў наступнае:

«СКАЖЫ ЗАМОВУ. ВУЖ-ВУЖАНІЦА. ВАЗЬМІ СВАЁ ДЖАЛА. ЗАБЯРЫ АЛЬДОНЫ БОЛЬ».

Альдона прамовіла гэтыя словы і стала прыслухоўвацца да сваіх адчуванняў.

— Ну і што? — Пацепнула плячыма яна.— Нічога і не змянілася. Вочы як балелі, так і…

Тут яна змоўкла. Бо на тое была прычына, і досыць важкая. Пакуль яна прамаўляла гэтую сваю зусім нядоўгую і скептычную прамову… вочы перасталі балець.

— Затое яны чырвоныя,— чапляючыся за рэшткі недаверу, які раставаў імкліва, нібы снежная гурба, на якую выліваюць вядро цёплай вады, прамармытала дзяўчо.

З гэтымі словамі яна зноў падышла да люстэрка. Ёй давялося запаліць святло, бо веры сваім вачам яна даць не магла. Ніякае чырвані!

Вужыны Кароль ляжаў на стале, прыўзняўшы галаў, і здавалася, што ён усміхаецца.

«Я ж табе казаў, што я — кароль. А каралі, асабліва вужыныя, здольныя шмат на што!»

— Сапраўды,— засмяялася, страсянуўшы валасамі, Альдона.— Дзякуй табе! Ты мне так дапамог.

– НЯМА ЗА ШТО,– пабег на маніторы радок.– АЛЕ ПАКУЛЬ КАМП'ЮТАР НЯХАЙ АДПАЧНЕ. ДЫ І ТЫ ТАКСАМА.

— Згодная! І спраў у мяне на сёння яшчэ стае,— пляснула ў ладкі Альдона,— ды хоць бы пра вужоў пачытаць.

***Вершаванае навучанне***

Вядома ж, Альдона не толькі сядзела пры камп'ютары. Апрача таго, яна мела яшчэ і розныя абавязкі. Адным з іх была школа. Школьным настаўнікам амаль заўжды падаецца, што дзеткі школу мусяць любіць болей за ўсё на свеце. Некаторым (настаўнікам і настаўніцам) дык наагул мроіцца, што іхныя вучні ранку не могуць прычакаць, каб хутчэй да парты рынуць. Альдона, як дзяўчынка разумная, да заняткаў ставілася сумленна, у школу хадзіла, калі хваробы альбо вакацыі не змушалі рабіць перапынкі. Вось і цяпер, вярнуўшыся з заняткаў, папалуднаваўшы, крыху адпачыўшы, дзяўчынка ўзяла заплечнік, каб павыцягваць з яго кнігі, сшыткі ды іншыя патрэбныя рэчы. І тут на стале з'явіўся Вужыны Кароль.

— Прывітанне! — усміхнулася Альдона.— Радая цябе бачыць. Цудоўна выглядае Вашая каралеўская міласць. Як маешся?

– ДОБРА.– пасля невялічкай паўзы, якая спатрэбілася вужу, каб дапаўзці да камп'ютара, на маніторы з'явіліся словы.– БАЧУ. ШТО ТЫ ЗАДАННІ РАБІЦЬМЕШ.

— Вядома ж.— Хітнула галавою дзяўчынка.

– А ШТО НАПАЧАТКУ.

— Ды вось. Задалі верш прыдумаць…

– ВЕРШ. ГЭТА ФАЙНА,– выстукваў вуж.– А ТЭМА ЯКАЯ.

— Пра восень,— мовіла дзяўчо,— ды што цяпер цікавага? Халодна, золка… Бр-р-р!

– ГЭТА ТЫ ДАРЭМНА,– не пагадзіўся кароль.– КОЖНАЯ ПАРА МАЕ СВАЁ ХАРАСТВО. ЗРЭШТЫ, ШТО ТУТ РАЗВАЖАЦЬ. ПРАПАНУЮ РАЗАМ ПАСКЛАДАЦЬ ВЕРШ.

— Разам?! — здзівілася Альдона.— А што... Я згодная.

– ТАДЫ РАСПАЧНЕМ. ВОСЬ СЛУХАЙ.

ЛІСТАПАД СЫХОДЗІЦЬ ЦІХА.
РАЗВІТАЕЦЦА ДАЖДЖОМ.
НЕЎЗАБАВЕ БЕЛЫ СНЕЖАНЬ

— ...свой збудуе белы дом! — завяршыла Альдона.

– НЯКЕПСКА,– Усцешыўся вуж.– А ЦЯПЕР...

— А цяпер — я! А ты прадоўжыш.— Гульня ўжо зацягнула дзяўчынку.

– ЗГОДНЫ. ПАЧЫНАЙ...

Альдона і не заўважыла, як за гульнёю яна разам з Вужыным Каралём напісала ажно не адзін, а цэлых восем вершаў. І гэта назаўтра дало плён. Настаўніца ў школе была прыемна здзіўленая гэткай прадукцыйнасцю, і Альдона атрымала дзясятку. А пра тое, што вершы супольныя, ведалі толькі яна і ейны суаўтар.

***Скарбы, змеі, людзі (і краты)***

– А ЯШЧЭ Я СКАРБЫ ЗНАХОДЗІЦЬ УМЕЮ,– у працяг гаворкі пра здольнасці выстукаў на клавіятуры Вужыны Кароль.

— Як — скарбы? — Наставіла вушы Альдона.— Ці ты жартуеш?

– ДЫ НЕ. ЯКІЯ ТУТ ЖАРТЫ. ПРАЎДУ КАЖУ.– Вужыны Кароль прыўзняўся і дакорліва пахітаў целам.

З Альдоны ўсю задумлівасць нібы ветрам здзьмула. Во гэта дык навіна! Яна наагул любіла розныя таямніцы, загадкі, дзівосы. Любіла казкі і фільмы на гэткія тэмы. А тут — напраўду! Натуральна, Вужынага Караля, так бы мовіць, засыпалі і заатакавалі пытаннямі, якія Альдона ледзь паспявала задаваць. А сябра змушаны быў адказваць, цiснучы клавішы.



— А я чула, што краты — галоўныя знаўцы скарбаў?

– ВЯДОМА. У ГЭТЫМ СЭНСЕ НАМ З КРАТАМІ НЕ ХОДАЦЦА. ГЭТАК, ЯК ЯНЫ, МЫ ЛЁХАЎ НЕ КАПАЕМ. АЛЕ Ж У ІХ ПАЧУВАЕМСЯ НЯКЕПСКА. І ШМАТ ШТО ЗНАЙСЦІ ЗДОЛЬНЫЯ.

— А куды ж вы каштоўнасці складаеце? — распытвала далей дзяўчынка.

– ЗВЫЧАЙНАЙ ЗМЯІ ЯНЫ НЕПАТРЭБНЫЯ. АЛЕ ЯНЫ ЗНОСЯЦЬ ІХ У АДМЫСЛОВЫЯ СХОВІШЧЫ. ЯКІЯ І СКЛАДАЮЦЬ КАРАЛЕЎСКІ СКАРБ.

— Вось бы мне такі скарб знайсці! — мройліва працягнула Альдона.— Тады б я... Гэх!

Дзяўчо аддалося летуценням пра тое, што б яна тады зрабіла-набыла на знойдзеныя каштоўнасці. Вуж слухаў, хітаў галавою, нібы згаджаючыся. Але ж калі надышла чарга яму адказаць, ён выказаўся супраць:

– КАШТОЎНАСЦІ НЕ КОЖНАМУ Ў РУКІ ДАЮЦЦА. ДЫЙ НААГУЛ. ІХ ТРЭБА САМОМУ СТВАРАЦЬ.

— Гэта ты пра што?

– ВЕДЫ. ЗДОЛЬНАСЦІ. ДАБРЫНЯ. ВОСЬ САПРАЎДНЫЯ СКАРБЫ,– друкаваў Вужыны Кароль,– БО ЯК ТЫ ЎСЁ МЕЦЬМЕШ. ТО ХІБА Ж ТЫ БУДЗЕШ УДАСКАНАЛЬВАЦЦА.

— Ну, не ведаю...— задуменна азвалася Альдона. Усё гэта выглядала неяк незвычайна...— А што, хіба маючы ўсё, я перастану развівацца ды імкнуцца да нечага?

– А ТЫ ПАДУМАЙ,– вёў далей ейны суразмоўца.– Я Ж ЦЯБЕ НЕ ЗМУШАЮ ПАГАДЗІЦЦА СА МНОЮ ПРОСТА ЦЯПЕР. ПАРАЗВАЖАЙ. А ПОТЫМ. ЯК БУДЗЕ АХВОТА. МЫ З ТАБОЮ ЗНОЎКУ НА ГЭТУЮ ТЭМУ ПАГАМОНІМ.

І праўда, часам новае вымагае гэтага самага часу. Вось так і адбылося — пазней, паразважаўшы, Альдона ўсё ж пагадзілася з сябрам. Скарбы ды каштоўнасці найлепшыя тады, калі ты сам іх стварыў, а яшчэ — калі з іх

іншыя карыстацца могуць. Вось, да прыкладу,– кнігу напісаць. Альбо карціну. Ці песню стварыць. Ды ці мала што кожны ў сабе знойдзе. Вось і тата ёй падобнае казаў: скарбы ў самім чалавеку схаваныя. Толькі не кожны іх знайсці здольны. А яшчэ развіць! Бо на тое высілкі патрэбныя, заўзятасць, імпэт. Гэта вам, даражэнькія, не на канапе мякенькай ляжаць з тэлефонам-айфонам у руках. І не ля камп'ютара сядзець, у гульні гуляючы...

### *Нервовы шок зламысніка, які пабачыў змяю*

Часам тата турбаваўся, што Альдона шмат пры камп'ютары сядзіць, і вытурваў яе на двор.

— Так,– мовіў татачка,– бачу, што ты, даражэнькая, зусім ужо на свет навакольны забылася. Дык вось я табе і нагадваю, што апрача гэтага апарата, ёсць яшчэ шмат цікавага, а галоўнае — болей карыснага.

— Але я...– пачынала Альдона.

— І слухаць нічога не жадаю! Зараз жа сабралася і пашыбавала на двор. Свежым паветрам дыхаць! Зрок аднаўляць. У чалавека ператварацца, а не ў гэтага... робата!

І хоць тата прамаўляў на «падвышаных тонах», ягоная дачушка цудоўна ведала — тата не злуецца. Нават усмешку, гатовую з'явіцца на вусатых вуснах, ён старанна прыхоўвае. Але ж часам трэба ўдаваць...

Тады дзяўчынка кідала ўсё, апрача свайго сакрэтнага сябра. Вужынага Караля яна брала з сабою. З такім таварышам было зусім не страшна апынуцца ўва ўсялякай прыгодзе. І неяк самое жыццё дало магчымасць пераканацца ў гэтым не толькі тэарэтычна, але і практычна. Аднойчы Альдона і Вужыны Кароль нават зламысніка затрымалі.

Магчыма, нейкі недаверлівы чытач на гэтым месцы пачне ўсміхацца на ўвесь (а мо і напалову) рот: якім жа чынам, маўляў, гэтая парачка такое здзейсніла? Давядзецца апавесці.

Калі Альдона з сябрам, што сядзеў у торбачцы, выйшла на двор, дык міжволі пакруціла галавою. І было з чаго — вечаровае надвор'е падавалася проста ідэальным. Дзіва што: месяц травень, цеплыня, павявае зусім лёгкі ветрык, наўкол усё квітнее, красуе ды буяе. Казка, дый годзе!

Дзяўчынка агледзелася, разважаючы, куды ж выправіцца. Можна было б пайсці ў парк, дзе так прыемна пашпацыраваць выгіністымі дарожкамі, якія прыводзяць цябе то ў зацішныя мясціны, то наадварот — ты незаўважна апынаешся пад сонейкам сярод кветак.

«А можна пайсці і ў іншы бок»,– думала Альдона... Але ейныя далейшыя разважанні на гэтым спыніліся. Рэч у тым, што побач адбывалася нешта дзіўнае. У гэты момант дзяўчынка праходзіла паўз вокны першага паверха. І вось выпадкова зіркнуўшы туды, яна пабачыла, як з адчыненага акна вызірнуў нейкі твар. Чалавек, якому ён належаў, відавочна, быў нечым занепакоены. Ён сцярожка і ўстурбавана глядзеў на ўсе бакі, нібы баючыся чагосьці. Нават угару зірнуў. Нібы адчуўшы нешта, Альдона прыпынілася і стала назіраць за акном. Дзяўчынка стаяла за дрэвам, і яе не было відаць. Затое яна бачыла ўсё. Бачыла, як неўзабаве на вяроўцы з акна апусціўся скрутак. Тады ўжо знаёмы незнаёмец кінуў на дол яшчэ нейкі пакет. Пасля, зноўку паглядзеўшы з акна і пераканаўшыся, што нікога нідзе няма, гэты дзіўны чалавек пачаў вылазіць сам.

«Злодзей!» — мільганула думка ў галаве Альдоны.

А хто ж яшчэ, скажыце вы, будзе гэтак паводзіцца? Да таго ж Альдона чытала абвесткі пра тое, што ў іхным раёне адбылося ўжо колькі абрабаванняў кватэраў.

Часу на роздум не было. І дзяўчынка, не марудзячы, вылецела з-за дрэва і кінулася да дома. Усё адбылося хутка. Злодзей апусціўся з акна, завярнуўся і пабачыў перад сабой дзяўчо. У першае імгненне ён спалохаўся, але ўгледзеўшы перад сабою Альдону, незадаволена ашчэрыўся.

— А ты, малая, што тут робіш? Шыбуй адгэтуль, а то зараз...

Ён толькі ўзняў руку, каб пагрозліва замахнуцца, як угледзеў перад сабою змяю.

Пераважная бальшыня людзей на змеях не знаецца і, пабачыўшы перад сабою паўзуна, западае ў паніку. Менавіта гэтак і адбылося.

— А-а-а!!! — прарэзліва заверашчаў злодзей.

Альдона сама здзівілася, бо вочы зламысніка за імгненне павялічыліся амаль удвая. «Нібыта ў нейкім мульціку»,– зазначыла сама сабе дзяўчынка. Забыўшыся на ўсё, незнаёмец амаль без дапамогі рук узляцеў назад у кватэру. Цяпер надышла чарга Альдоны. Яна ўцягнула паболей паветра.

— Злодзей! Кватэру рабуюць! Міліцыя! — разлегся голас, адбіваючыся ў шыбах і сценах дамоў.

У акне другога паверха з'явіўся твар нейкай кабеты.

— Які злодзей? Дзе?

Далей падзеі разгортваліся імкліва. Хуценька скеміўшы, што і да чаго, суседзі разгарнулі вірлівую дзейнасць. За хвіліну на дапамогу Альдоне з'явіўся дзядзька Зміцер — гэтак ён назваўся. У руцэ ён сціскаў важкі малаток, і злодзей, што памкнуўся быў вылезці, зразумеў — нічога не атрымаецца.

Затое міліцыю атрымалася выклікаць лёгка. І неўзабаве ўсе цікаўныя назіралі — хто з вокнаў, а хто скупіўшыся ўнізе, як зламысніка выводзяць у кайданках і саджаюць у машыну.

Натуральна, міліцыянты падумалі, што ў затрыманага нервовы шок, і ён крычыць «змяя» на дзяўчынку. Ды як ім было даўмецца, што ейны сябра — Вужыны Кароль. А дзяўчынка не стала іх пераконваць у «змяінай прычыне». Затое Альдона атрымала ўзнагароду ад міліцыі. Вужыны Кароль застаўся, так бы мовіць, у цені, але ж гераіня крымінальнага вышуку чарговы раз зразумела, якога ўнікальнага сябра яна займела.

***Перамога Альдоны ў конкурсе***

Вуж упрыгожвае герб беларускага горада Пружаны. Але напачатку можна і злякацца, пабачыўшы выяву змяі, якая заглынула дзіця. Напраўду нічога страшнага — як тлумачаць навуковымі тэрмінамі геральдысты, дзіця з'яўляецца з пашчы вужа, і гэта сімвалізуе ізноў абуджаную вечна юную моц у спалучэнні з мудрасцю, здольнасць свету да самаачышчэння і аднаўлення. Відаць, таму і пастанавілі ў Пружанах зладзіць конкурс на найлепшае веданне вужоў. Пытанні былі самыя розныя, але, зразумела, што перамагла Альдона (з дапамогаю «сакрэтнага сябра»). Вы таксама можаце спраўдзіць, ці слушна яна адказала на пытанні, ці заслужаная ейная перамога.

1. Ці ёсць вуж змяёй? — *Так.*
2. Ці атрутны вуж? — *Не.*
3. Якія месцы болей любіць вуж: сухія ці вільготныя? — *Вільготныя.*
4. Дзе трапляецца вуж у Беларусі? — *Паўсюль.*
5. Якой даўжыні сягаюць вужы? — *Да 1,5 метра.*



6. Як называецца скура, якую вуж скідвае падчас вылінання? — *Вужавінне.*
7. Хутка ці марудна поўзае вуж? — *Хутка.*
8. Калі вуж дзейны: удзень ці ўначы? — *Удзень.*
9. Ці ўмее вуж плаваць? — *Плавае вельмі добра.*
10. Ці лазіць вуж на дрэвах? — *Так.*
11. Ці прызвычайваецца вуж да рук? — *Вуж хутка прызвычайваецца да гаспадара і ідзе на рукі.*
12. Калі вуж кладзецца ў спанне? — *Прыканцы верасня.*
13. Што значыць выраз «віцца вужакай»? — *Падлабуньвацца да каго-кольвек.*
14. Пра каго кажуць «выкручваецца вужом»? — *Гэтак кажуць пра таго, хто падманам, хітрасцю намагаецца выйсці з цяжкога становішча.*
15. Рэкі падобныя да вужоў. А ці ёсць у Беларусі рака з такою назваю? — *Так, у Капыльскім і Слуцкім раёнах Мінскай вобласці цячэ рака Вужанка.*
16. Якія роды мелі герб «Вуж»? — *Адольскі, Амбражкевіч, Амбражэвіч, Борк, Борх, Вонскі, Длатоўскі, Касарэўскі, Кастравіцкі, Кулаковіч, Кулькові, Куроўскі, Лойка, Мачульскі, Мігановіч, Мінкевіч, Міхановіч, Падалецкі, Падалінскі, Пясецкі, Рудзкі, Руцкі, Сядлецкі, Туровіч, Фурс, Фурсевіч, Ясенскі, Ясінскі...*

***Няма «Добрай раніцы!»***

Ранак зазвычай пачынаўся з таго, што дзяўчынка ўлучала камп'ютар і казала: «Дабрыдзень, Вужыны Кароль». І тады Вужыны Кароль, які прачынаўся раней за маленькую гаспадыню, хутка адбіваў на клавіятуры:

– ДАБРЫДЗЕНЬ. АЛЬДОНА.

Але так было не заўжды. Усе мы нешта ведаем, нешта — не. Неяк напачатку дзяўчынка азвалася: «Добрай раніцы!» Здавалася, што тут такога — звычайнае вітанне. Але Вужыны Кароль адразу нагадаў:

– У ВУЖОЎ. ЯК І Ў БЕЛАРУСАЎ. НЕ КАЖУЦЬ. ДОБРАЙ РАНІЦЫ.

— Чаму? — здзівілася дзяўчынка.— Дзень жа ёсць?

– ТАК.

— Вечар?

– ТАКСАМА,– адстукаўшы, згодна матлянула галавою змяя.

— Дык жа ранку таксама ніхто не касаваў! — усміхнулася Альдона.

– ВЯДОМА. ЯК ЖА БЕЗ ЯГО. АЛЕ Ў ВІТАННЯХ НІЯКАГА РАНКУ БЫЦЬ НЕ МОЖА. КАЛІ ЗІРНУЦЬ У ГІСТОРЫЮ, ДЫК ЛЁГКА МОЖНА ПАБАЧЫЦЬ. ПРАЧЫТАЦЬ, ШТО Ў НАС ВІТАЛІСЯ ДА ВЕЧАРА МЕНАВІТА. ДОБРЫ ДЗЕНЬ. АЛЬБО. ДАБРЫДЗЕНЬ,– тлумачыў вуж.– ПРАЧНУЎСЯ. І ДЗЕНЬ РАСПАЧАЎСЯ.

— Ага...— Альдона і праўда ўзгадала, што ейная бабуля ніколі не кажа «Добрай раніцы!».

– НУ ВОСЬ. САМА БАЧЫШ. І ВЕДАЕШ. А ВІТАННЕ ТАКОЕ ПРОСТА ПЕРАКЛАД З ІНШАЙ МОВЫ. УСЕ МОВЫ ФАЙНЫЯ. АЛЕ Ж ТРЭБА ШАНАВАЦЬ НАЙПЕРШ СВАЮ. ПАГАТОЎ. НЕ ЗМЕШВАЦЬ З ЧУЖОЙ ТАМ. ДЗЕ ТОЕ НЕ ТРЭБА.

— Затое ў беларусаў ёсць і ранак, і раніца — і для хлопчыкаў, і для дзяўчынак! — прыдумала Альдона.

– МАЛАЙЧЫНА,– пагадзіўся Вужыны Кароль.– ТВОРЧЫ ПАДЫХОД. ГЭТА ЗАЎЖДЫ ДОБРА. А З ГУМАРАМ І ПАГАТОЎ.

***Мокрыя прыгоды***

Нядаўна Альдона навучылася плаваць. Не тое, каб дагэтуль дзяўчынка не мела жадання трымацца на вадзе, лупцуючы яе рукамі і нагамі. Зусім наадварот — такія мары не давалі ёй спакою ўжо доўгі час. Але ўсё неяк не выпадала. А тут і ў басейн пахадзіла, дзе трэнер усё патлумачыў ды паказаў, і ўлетку, калі ў вёску да бабулі паехала, высветлілася, што непадалёк ёсць Белае возера.

Вужынага Караля, вядома ж, Альдона ўзяла з сабою. Не толькі дзяўчынкам карысна ўлетку на свежым паветры час бавіць, але і змеям таксама. Вуж часовую змену месца жыхарства ўпадабаў. Да таго ж малачко цяпер яму Альдона прыносіла свежанькае, сырадой.

Наступнага дня Альдона на возера рушыла. Купацца! Вужынага Караля з сабою ўзяла — у кошыку.

Дзянёчак папросту цудоўны. Неба — ані аблачынкі, сонейка свеціць, а хвалі ногі гэтак ласкава казычуць. Альдона напачатку ў возера асцярожна ўвайшла, нагамі прамацала, а тады ўжо і плаваць пачала. Плавала, плёскалася, нават на спіне плыць паспрабавала. І атрымалася. А як разгледзелася, дык пабачыла, што ад берага ўжо далёка адплыла. Спалохалася Альдона, што стаміўшыся і не даплыве, ажно вуж, які побач гойсаў, раптам убок паплыў. І не да берага, а паралельна. Што такое? І тут Альдона пабачыла, як змейка, адплыўшы метраў з дзесяць, раптам на месцы круціцца пачала. Круціцца Вужыны Кароль, круціцца, і галаву ўздымае, нібы заклікае туды. Падплыла Альдона з апошніх сілаў, а вуж нырцаваць пачаў. Нырцане — выплыве, нырцане — выплыве. І тут дзяўчынка здагадалася — гэта ж ён плыткае месца паказвае. Паспрабавала стаць нагамі — і сапраўды! Глыбіня ў гэтым месцы — ёй па грудзі. Адпачыла Альдона, а тады ўжо спакойна да берага паплыла.

Ішлі яны дахаты, а дзяўчынка чакала моманту, калі ж Вужынага Караля распытаць здолее. Да бабулі Альдона з сабою ноўтбук узяла, так што перамаўляцца яны маглі без праблемаў.

— Як жа ты здагадаўся, што там мяліна? — прагучала першае пытанне Альдоны.

– У НАС. ЗМЕЯЎ. ЧУЦЦЁ ЗНАЧНА ЛЕПШАЕ ЗА ЛЮДЗЕЙ,– выводзіў хвастом на маніторы кароль.– І ТУЮ Ж ГЛЫБІНЮ МЫ АДЧУВАЕМ ЦЕЛАМ. ТАК ШТО НІЧОГА НЕЗВЫЧАЙНАГА ТУТ НЯМА.

— Дзякуй табе,— які ўжо раз за сёння прамовіла дзяўчо,— каб не ты, я не ведаю, ці ўдалося б мне даплыць да берага. Чым жа цябе аддзячыць?

– НЯМА ЗА ШТО. ЗРЭШТЫ... Я ЧУЮ. ШТО БАБУЛЯ ПАДАІЛА ЎЖО КАРОВУ. ЯК ТЫ КАЗАЛА. ЯЕ КЛІЧУЦЬ ЗОРКА.

— Ну так, Зорка. А што? — не зразумела Альдона.

– ЯК ГЭТА. ШТО. А ДЗЕ Ж ЯШЧЭ ТАКОГА СМАЧНАГА МАЛАЧКА Я ПАП'Ю.

— Несці? — усміхнулася дзяўчынка.

– ТЫ ЯШЧЭ ПЫТАЕШ. НЯСІ.

***Вужыны Кароль адгадвае***

Вужы — як людзі. У тым сэнсе, што кожны з іх мае свае адметнасці, звычкі, схільнасці ды ўпадабанні. Наш Вужыны Кароль вельмі любіць загадкі. Папраўдзе, ён болей любіць адгадкі. Але ж не бывае адгадкі, як няма загадкі. Альдона даўно ведае пра сябравыя зацікаўленні і заўжды ідзе яму насустрач — не толькі ў літаральным сэнсе, але і пераносным. Ідзе з тымі загадкамі, над якімі можна паламаць галаву (таксама ў пераносным сэнсе).

— З куста шыпуля, ды за ногу шчыпуля,— пытаецца Альдона, каб пацешыць сябра.

А Вужыны Кароль не марудзіць. Ён імкліва ўлучаецца ў гульню. Ледзьве прагучала загадка, ён адразу адказ ведае:

– ГЭТА Ж ВУЖ.

— Добра, малайчына. А вось табе яшчэ адно пытаннечка. Паглядзім, ці ты дасі рады. Мне падаецца, ты ўжо гэтак лёгка не выкруцішся. Ну во слухай: мясная бачурка, залаты абручык,— гарэзліва прамаўляе дзяўчынка.

– ПАЛЬЦЫ І ПЯРСЦЁНАК,– без прамаруджвання застукацеў хвасток па клавіятуры.

— Бач ты які дасціпны. Добра, рушым далей. Каб устала, дык да неба б дастала.

– ДАРОГА.

— Але ж! — Хітае галавою дзяўчо. Ейнага сябра не так і лёгка загнаць у разумовы кут. Наадварот — часам падаецца, што гэта менавіта ёй нятроста знайсці складанае пытанне суразмоўцу. Ды пачакай... — Не чалавек, а размаўляе,— яшчэ болей паважна запытваецца ў Вужынага Караля дзяўчынка.— І што ж ты на гэта...

– КНІГА.

— А вось і не! Гэта ты — Вужыны Кароль,— смяецца Альдона.— Урэшце і цябе ў кут загналі! А то я ўжо пачала хвалявацца: ці знайду нешта неразвязальнае для цябе.

А Вужыны Кароль паглядзіць неяк задумліва-маркотна і далей гатовы загадкі адгадваць.

А бывае, што ён напачатку адгадкі піша, а тады Альдона загадкі прыдумляе. Ён не намагаецца знайсці нешта ўжо такое звышскладанае, але ягоная метода мае свае адметнасці — натуральна, вужыныя. Кароль высоўвае загадкі досыць простыя, але адгадкі мусяць быць рыфмаваныя.

– МАРОЗІВА,– напачатку зʼяўляецца апошняе слова ў будучым загадкавым ланцужку.

Альдона ўзводзіць вочы ўгару, а бровы зводзіць да пераносся. Колькі імгненняў роздуму — і змяіны хвасток саступае месца пры клавіятуры пальчыкам дзяўчынкі. Яны рассыпаюць пошчак гукаў, кожны з якіх — вершаваны.

— Як з лядоўні яно — дык цвёрдае, смачнае.
Калі хутка ясі — табе вельмі ўдзячнае.
А як спознішся — знікне яно,
Пераўтворыцца ў малако.

– КАКТЭЙЛЬ,– падсунуўся бліжэй да кампʼютара вуж.

— Як малако ўзбіваюць з сокам,
Дык ён падобны да аблокаў.
Нібыта з казкі белы эльф
Табе гаворыць: «Пі ........»

– А НЯКЕПСКАЯ Ў НАС ПАРА,– робячы выснову, Вужыны Кароль выглядае цалкам задаволеным. Альдона — таксама.

Любіць Вужыны Кароль малако, таму і адгадкі з малаком любіць, і загадкі.

Вядома ж, загадкі адгадваць — не малако піць, іх усе любяць, нават тыя, хто малако не п'е. І адну такую дзяўчынку мы з вамі ўжо цудоўна ведаем. Ці не так?

***Страшная гісторыя ад Вужынага Караля***

Што любіце рабіць вы, калі дзень, стаміўшыся, пачынае зморана пазяхаць і хоцькі-няхоцькі саступае месца свайму сябру ды таварышу — вечару? Вядома, кожны можа паведаміць, што гэты час ён бавіць як зажадае. Адзін кнігу чытае, другі — тэлевізар глядзіць, іншыя — хто ў камп'ютары, хто ў тэлефоне. Тыя, хто любіць здаровы лад жыцця, на падворку гуляе, скача ды катаецца-коўзаецца. Ровар, ролікі — ды ці мала чаго! Чалавек з фантазіяй заўжды калі не знойдзе, дык прыдумае сабе занятак...

Цёмнымі вечарамі Альдона любіць чытаць. Але не проста кнігу. Мы ж ведаем, што ў яе ёсць унікальная магчымасць, і яна яе марна не губляе. Яна чытае гісторыі ад Вужынага Караля. Гэтак і цяпер адбываецца. Дзяўчынка ўселася ў фатэлі, абхапіла калені. Вочы зіхацяць, бо яна ведае: вуж ёй не адмовіць.

— Напішы мне, калі ласка, страшную-страшную гісторыю,— просіць Альдона.

Гэткія гісторыі, пагадзіцеся, увечары, калі пачуцці абвастраюцца, мы гатовыя ўспрыняць лепей за ўсё. Так карціць пачуць нешта такое, каб ажно дрыжыкі па скуры разбегліся ў розныя бакі. Каб і ў цёплы летні вечар падалося, што халадок агарнуў цябе. Каб ты сам міжволі здрыгануўся, страсаючы з сябе СТРАХАТУ. Каб праслуханае-пачутае ажно працяла слухача. Нават калі ўражаныя жахамі ды вусцішшу такія слухачы доўга не змогуць заснуць і ўначы ім будуць з'яўляцца пачвары ды здані.

І Вужыны Кароль распачынае:

– НЕДЗЕ ДАЛЁКА. А ЯК ДАЛЁКА. І НЕ ВЕДАЮ. АЛЕ Ж МЯСЦОВАСЦЬ ТАЯ ЗНАХОДЗІЦЦА СЯРОД БАЛОТАЎ І БАГНАЎ НЕПРАХОДНЫХ. СЯРОД ЛЯСОЎ І ПУШЧАЎ ВЕКАВЫХ. І ЁСЦЬ ТАМ ВЁСКА НЕВЯЛІЧКАЯ. ДАМКОЎ МО ДВАЦЦАЦЬ. ДЫК ВОСЬ КАЛІ АДЫСЦІСЯ КРЫХУ АД ТАЕ ВЁСКІ. ТАМ ЛЯЖЫЦЬ КАМЕНЬ. ЁН ВЯЛІЗНЫ ДЫ ВАЖКІ. УЗДЫМАЕЦЦА НАД ЗЯМЛЁЮ АЖНО НА ТРЫ МЕТРЫ. РОЗНЫЯ ЁСЦЬ ПРА ЯГО ДУМКІ. НАВУКОЎЦЫ МЯРКУЮЦЬ. ШТО НЕКАЛІ ЯГО ПРЫЦЯГНУЎ СЮДЫ МАГУТНЫ ЛЕДАВІК. ЯКІ РУХАЎСЯ З ПОЎНАЧЫ.

— А як ледавік гэтыя камені, дарэчы, цягне?

– ЛЕДАВІК МАЕ МОЦ ВЕЛІЗАРНУЮ. ТАЎШЧЫНЯ ЯГОНАЯ МОЖА СЯГАЦЬ НЕ АДНОЙ СОТНІ МЕТРАЎ. ТАК ШТО КАМЕНЬ ДЛЯ ЯГО ЦЯГНУЦЬ. УСЁ АДНО ШТО ДЛЯ ЦЯБЕ ПЯСЧЫНКУ ЯКУЮ. ВОСЬ НАШЫЯ БЕЛАРУСКІЯ КАМЯНІ НЕКАЛІ ЛЕДАВІКІ ПРЫЦЯГНУЛІ З ПОЎНАЧЫ.

— Ага, добра,— пахітала галавою дзяўчынка,— і што ж далей?

– АЛЕ ТУТЭЙШЫЯ. ХТО ЖЫВЕ НЕПАДАЛЁК. МЯРКУЮЦЬ ІНАЧАЙ. ЯНЫ ПРА ЛЕДАВІК НЕ АПАВЯДАЮЦЬ. ЗАТОЕ ТАМ МОЖНА ПАЧУЦЬ ДУЖА ЦІКАВУЮ ВЕРСІЮ ПРА КАМЕНЬ. НАЗЫВАЮЦЬ ЯГО ВУЖАВЫ КАМЕНЬ. І СЁННЯ. КАЛІ ТРАПІШ У ТУЮ ВЁСКУ. КОЖНЫ ЕЙНЫ ЖЫХАР АПАВЯДЗЕ ПРА ТАМТЭЙШУЮ ЗАГАДКАВУЮ СЛАВУТАСЦЬ. НАЗВА ТАЯ НЕВЫПАДКОВАЯ. БО РАНЕЙ ПАД ТЫМ КАМЯНЁМ ЖЫЎ ВУЖ. ЯКІ МОГ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА-ЧАЛАВЕЧЫ. А ЧАСАМ І ПЕРАЎТВАРАЦЦА Ў ЧАЛАВЕКА.

— Няўжо вуж можа пераўтварыцца ў чалавека? — здзіўляецца Альдона.

– Я Ж ТАБЕ ЗАЎЖДЫ КАЖУ. ВУЖЫ. АДНЫ З САМЫХ ДЗІВОСНЫХ ІСТОТАЎ. ЯКІЯ ТОЛЬКІ ЖЫВУЦЬ НА ЗЯМЛІ. АЛЕ ЦЯПЕР РЭЧ НЕ Ў ГЭТЫМ. ТЫ МЕНЕЙ ЗДЗІЎЛЯЙСЯ. БОЛЕЙ

СЛУХАЙ.– набірае Вужыны Кароль і працягвае: – ВУЖ БЫЎ НАДЗВЫЧАЙ ДОБРЫМ КРАЎЦОМ. ПРАФЕСІЯНАЛ. ДЫЙ ГОДЗЕ. ШТО ЁН ТОЛЬКІ НЕ ШЫЎ. ДЫ НЕ КРАЎЧЫЎ. АДЗЕННЕ Й ВОПРАТКА. ЯКУЮ ЎДАВАЛАСЯ АТРЫМАЦЬ АД ГЭТАГА МАЙСТРА. БЫЛА НАЙЛЕПШАЙ. УСЯ ВАКОЛІЦА НАМАГАЛАСЯ ЗАМОВІЦЬ ШТО-КОЛЕЧЫ ТАМУ КРАЎЦУ. І КОЖНЫ ВЕДАЎ. АТРЫМАЕ РЭЧ ДЫХТОЎНУЮ ДЫ ПРЫГОЖУЮ. НЕВЯДОМА. ЯК БЫ ТАМ ДАЛЕЙ УСЁ АДБЫВАЛАСЯ. АЛЕ ЖЫЦЦЁ ЧАСАМ ГЭТАК УСЁ ЗМЕНІЦЬ. ШТО НІКОЛІ І НЕ ПАДУМАЎ БЫ. ЗАКАХАЎСЯ ВУЖ У ДЗЯЎЧЫНУ З ВЁСКІ.

— А яна? — не стрымліваецца Альдона. Гісторыі пра каханне яна таксама любіць. А ўжо калі яны спалучаюцца з містычнымі, дык тое — найлепшы варыянт.— Ці адказала яму ўзаемнасцю?

– НА ЖАЛЬ. НЕ. ЯНА НЕ ПАКАХАЛА ЯГО.– сумна выводзіць Вужыны Кароль.– І МЕНАВІТА ГЭТАК ДЗЯЎЧЫНА ВУЖУ І АДКАЗАЛА. ДЫ НЕ ПРОСТА АДКАЗАЛА. АДМОВІЛА.

Альдона так і ўявіла сабе прыгожага-прыгожага хлопца, такога, пра якога марыць кожная, ну, ці амаль кожная дзяўчына: высокі, мужны, з ільняной чупрынаю хвалістых валасоў, з белазубаю ўсмешкаю, майстра на ўсе рукі (пра кравецтва, натуральна, дык і казаць не варта). Да таго ж ён яшчэ і спявае ды грае на розных інструментах. І яна — красуня яму проста ў пару. Такая прыгажуня, у якую закахаецца ўсялякі. Хто зірне — у імгненне сэрца з грудзей выскачыць! Прынамсі, як не выскачыць, дык будзе стукаць толькі з думкай пра яе...

— І што было далей?

– ДАЛЕЙ... НАЙЛЕПШЫЯ ЧАСЫ ДЛЯ НАШАГА ГЕРОЯ МІНУЛІ. ДАЛЕЙ УСЁ СТАЛА СКЛАДАЦЦА НЕПАМЫСНА. ХОЦЬ ТРЭБА АДЗНАЧЫЦЬ. ШТО ВЫСІЛКІ ВУЖАМ БЫЛІ ПРЫКЛАДЗЕНЫЯ НЕМАЛЫЯ. ШТО ТОЛЬКІ НЕ ВЫРАБЛЯЎ ГЭТЫ ВУЖ-ХЛОПЕЦ. І КВЕТКІ АБЯРЭМКАМІ ЁЙ НАСІЎ. І ВЕРШЫ З ПРЫЗНАННЯМІ

ПІСАЎ. І СУКЕНКУ ПАШЫЎ ТАКУЮ. ШТО І Ў КАРАЛЕВЫ НЕ ПАБАЧЫШ...

— А якая была сукенка? — пацікавілася Альдона.

– ФАНТАСТЫЧНАЯ. КОЛЕРЫ СТВАРАЛІСЯ З НАЙРАДЧЭЙШЫХ КВЕТАК І МІНЕРАЛАЎ. НІДЗЕ ТАКІХ БОЛЕЙ НЕМАГЧЫМА БЫЛО СУСТРЭЦЬ. КВЕТКАМІ ЁН ЯЕ РАСШЫЎ ДЗІВОСНЫМІ. У ТЫХ. ХТО ТУЮ СУКЕНКУ БАЧЫЎ. ПРОСТА МОВУ ЗАЙМАЛА. ЯК НА КАРЦІНАХ АЛЕГА АБЛАЖЭЯ.

— Уга!

І ПЕСНІ НАШ ГЕРОЙ СКЛАДАЎ. ТАЕ КРАСУНІ ПРЫСВЕЧАНЫЯ. І НА ДУДЗЕ ПАД АКНОМ ГРАЎ. І НА СКРЫПЦЫ.

— А лера?

– ШТО. ЛЕРА.

— Ну, інструмент ёсць такі.

– ВЯДОМА. І НА ЛЕРЫ ТАКСАМА. Я Ж КАЖУ. МАЙСТРА ЁН БЫЎ НА ЎСЕ РУКІ. І ТАЛЕНТАЎ ЯГОНЫХ НЕ ЗЛІЧЫЦЬ. ЁН НАВАТ З ПТУШКАМІ ДАМАЎЛЯЎСЯ. І ЯНЫ ПРЫЛЯТАЛІ ЎРАНКУ ДА ЕЙНАГА АКНА І СПЯВАЛІ ЁЙ НА ЎСЕ ГАЛАСЫ. АЛЕ ТАЯ ДЗЯЎЧЫНА НА ЎСЕ ЯГОНЫЯ НАМАГАННІ ДЫ ЗАКАХАНАСЦЬ АНІ ЗВАЖАЛА.

— Чаму ж так? — абурылася Альдона.— Нешта я яе папросту не разумею. Калі б мяне пакахаў такі хлопец, дык я шчаслівая была б! Нельга свайго шчасця губляць. Такое ж здараецца адзін раз у жыцці, дый тое не ў кожнага. За каханне змагацца трэба. А што ўжо казаць, калі яно табе само ў рукі плыве. І ў сэрца...

– ЗАРАНА ТАБЕ ЯШЧЭ ПРА КАХАННЕ ДУМАЦЬ.

— Яшчэ чаго! — адказала дзяўчо.— Я ж не малая. Да кахання трэ быць гатовай, каб потым, калі яно прыйдзе, не нарабіць памылак.

– КТО Ж ТАБЕ ТАКОЕ СКАЗАЎ.

— Прачытала недзе.— Махнула рукою Альдона.— Ды тое і так кожнай разумнай дзяўчыне вядома. Але што ж далей?

– ДЫК ВОСЬ. УСЁ. ШТО РАБІЎ ВУЖ. СТАЛАСЯ МАРНЫМ. ПРЫГАЖУНЯ НЕ ПРЫМАЛА ЯГОНАГА КАХАННЯ. ТАДЫ ЁН АДМЫСЛОВА СУСТРЭЎСЯ З ЁЮ. КАБ ВЫКАЗАЦЬ УСЁ. А КАЛІ ЁН АПАВЁЎ ПРА ТОЕ. ШТО Ў ЯГО НА ДУШЫ. ЯНА ТОЛЬКІ ПАСМЯЯЛАСЯ З ЯГО. МАЛА ТАГО. ЯК ВЫСВЕТЛІЛАСЯ. У ЯЕ ЎЖО БЫЎ ХЛОПЕЦ. З ЯКІМ ЯНА БАЧЫЛА СВОЙ ДАЛЕЙШЫ ЛЁС.

— Аёй-аёй! — Хітае галавою слухачка.— А колькі людзей усё жыццё мараць сустрэць каханне, а ім не шанцуе...

– ТАКІМ ЧЫНАМ УСЁ АБРЫНУЛАСЯ. І З ТАЕ ХВІЛІНЫ. ЯК АПОШНІЯ СПАДЗЯВАННІ ЛЯСНУЛІ. ЖЫЦЦЁ ДЛЯ ВУЖА ЗГУБІЛА ЎСЯЛЯКУЮ КАШТОЎНАСЦЬ. НІЧОГА ЯГО БОЛЕЙ НЕ ЦЕШЫЛА. І НІ Ў ЧЫМ ЁН ЦЯПЕР НЕ БАЧЫЎ АНІЯКАГА СЭНСУ. І САПРАЎДЫ. КАЛІ ТЫ ГУБЛЯЕШ НАЙГАЛОЎНАЕ. ВАКОЛ ЧАГО БУДУЕЦЦА ТВАЁ ЖЫЦЦЁ-ІСНАВАННЕ. ЯК ЖЫЦЬ ДАЛЕЙ...

ШМАТ ХТО ГЛЯДЗЕЎ НА НЕБАРАКУ СА СПАЧУВАННЕМ. ДЫ ТОЛЬКІ ДАПАМАГЧЫ ЯМУ НІЧЫМ НЕ МАГЛІ. І КАБ ВУЖ НЕ ПАКУТАВАЎ. ПЯРУН. БОГ ГРЫМОТАЎ. ЗАБІЎ ЯГО МАЛАНКАЮ.

— Як?! — Альдона не чакала такога развіцця падзеяў.

– АГА. АДБЫЛОСЯ ТОЕ Ў РАБІНАВУЮ НОЧ. КАЛІ БЛІСКАВІЦЫ ДЫ ГРЫМОТЫ ШАЛЕЮЦЬ НАПОЎНІЦУ. ДЫ НЕ ПРОСТА ЗАБІЎ. А ПЕРАТВАРЫЎ ЯГО Ў ТОЙ САМЫ КАМЕНЬ. ТАК ШТО ПРАМІНУЛА ЎЖО НЕ АДНО СТАГОДДЗЕ. А ДАГЭТУЛЬ ЛЮДЗІ ПАМЯТАЮЦЬ ПРА НЯШЧАСНАЕ ВУЖАВА КАХАННЕ.

Альдона пачынае румзаць, слёзы коцяцца і коцяцца, і Вужыны Кароль выцірае іх сваім хвастом.

*Выратавальная гісторыя ад Вужынага Караля*

– ЦІ НЕ ЖАДАЕШ ПАЧЫТАЦЬ ЯШЧЭ АДНУ СТРАШНУЮ ГІСТОРЫЮ,– набірае Вужыны Кароль.– Я ТУТ УЗГАДАЎ ДУЖА ЦІКАВУЮ РЭЧ. МНЕ ПАДАЕЦЦА. ШТО ТАБЕ БУДЗЕ...

— Не жадаю, я яшчэ ад той гісторыі не ачомалася,— перапыняе яго дзяўчынка,— пакуль што з мяне досыць такіх рэчаў. Як-небудзь іншым разам. Лепей пішы нешта аптымістычнае. Такое, ведаеш, што натхняе і дадае моцы.

– АПТЫМІСТЫЧНАЕ. ДЫК АПТЫМІСТЫЧНАЕ,– пагаджаецца Вужыны Кароль і распачынае: – ТАДЫ ЧЫТАЙ. ЖЫЎ У СЕЛЯНІНА Ў ДОМЕ ХАТНІ ВУЖ. КАРМІЛІ ЯГО МАЛАКОМ. ЗАЎЖДЫ ВЫНОСІЛІ ПАГРЭЦЦА НА СОНЕЙКА І НІКОЛІ НЕ КЛАЛІСЯ СПАЦЬ. ПАКУЛЬ ЁН НЕ ВЯРТАЎСЯ. ДЗЕЦІ ЯГО ДУЖА ЛЮБІЛІ І ГУЛЯЛІСЯ З ІМ. А ВУЖ ВАРТАВАЎ ДЗЕТАК. КАЛІ БАЦЬКІ З'ЯЗДЖАЛІ. І ДАРОСЛЫЯ ВЕДАЛІ. ШТО КАЛІ ІХ НЯМА ЎДОМА. МОЖНА НЕ ХВАЛЯВАЦЦА. З ДЗЕТКАМІ ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА.

— А ты мяне таксама вартуеш? — жартуе Альдона.

– ТАКСАМА,– піша Вужыны Кароль, хоць і не зусім зразумела — паважна ці жартам. І працягвае нястрашную гісторыю: – АДНОЙЧЫ. КАЛІ ДАРОСЛЫЯ З'ЕХАЛІ. ДЗЕЦІ З ВУЖОМ ГУЛЯЛІСЯ Ў ПЯСКУ. І РАПТАМ ТОЙ НЕВЯДОМА З ЯКОЙ НАГОДЫ ЗАХВАЛЯВАЎСЯ І ПАЧАЎ СЫКАЦЬ НА ІХ. АДГАНЯЮЧЫ Ў БОК ХАТЫ. РАЗЗЛАВАЎСЯ. ДЫЙ ГОДЗЕ. ДЗЕЦІ НАПАЧАТКУ НЕ ЗРАЗУМЕЛІ. ШТО ГЭТА ТАКОЕ ЧЫНІЦЦА З ІХНЫМ ЗАЗВЫЧАЙ ДОБРЫМ І ЛАГОДНЫМ ПРЫЯЦЕЛЕМ. АЛЕ НЕЎЗАБАВЕ ЎСЁ ВЫСВЕТЛІЛАСЯ. ЯНЫ ЗАЎВАЖЫЛІ НЕПАДАЛЁК СЯБЕ ВЯЛІКУЮ ГАДЗЮКУ. І ТАЯ ЗМЯЮКА НЕ ПРОСТА ТАК ПРАПАЎЗАЛА САБЕ ПОБАЧ. НЕ. У ЯЕ БЫЛІ ІНШЫЯ НАМЕРЫ. ЯНА ПАЎЗЛА ДА НАЙМЕНШАГА...

— Зноў жахі,— сцялася Альдона.— Я цябе прасіла...

– НЕ ХВАЛЮЙСЯ. УСЁ БУДЗЕ ДОБРА. ВУЖ КІНУЎСЯ НА ГАДЗЮКУ. ЯНЫ СЧАПІЛІСЯ КЛУБКОМ І ПАЧАЛІ ЗМАГАЦЦА ТАК.

ШТО АЖНО ПЯСОК ЗАКУРЭЎ ВАКОЛ. ДОЎГА ЯНЫ БІЛІСЯ. АЛЕ ВУЖ ПЕРАМОГ ГАДЗЮКУ. ЗАДУШЫЎ. КАЛІ БАЦЬКІ ВЯРНУЛІСЯ ДАХАТЫ. ДЗЕЦІ ЎСЁ АПАВЯЛІ ІМ. А ЗІРНУЎШЫ НА ГАДЗЮКУ. ДАРОСЛЫЯ ЗРАЗУМЕЛІ. УСЁ ПРАЎДА. І ТАДЫ ВУЖА ЯШЧЭ БОЛЕЙ ПАЛЮБІЛІ Ў СЯМ'І. НАВАТ КАЛІ МАЛАКА БЫЛО МАЛА. ВУЖУ НАЛІВАЛІ НАЙПЕРШ.

— Хоць малака ў хаце мала, я табе налью найперш,— смяецца Альдона і ідзе на кухню.

***Таямніца падзяляецца на трох***

Хоць Альдона і сябравала з Вужыным Каралём, але ж і іншыя сябры ды сяброўкі ў яе былі. Вядома, шмат блізкіх сяброў не бывае. Нялёгка ж знайсці чалавека, з якім ты супадаеш у многім, чалавека, з якім можна падзяліцца сакрэтамі і таямніцамі. З тым, хто заўжды дапаможа ў цяжкую часіну... Зазвычай такіх — адзін-два. Вось і Альдона мела адну найлепшую сяброўку — Хрысціну. З ёй яна і пры адной парце ў школе сядзела, і на падворку гуляла, і адна да адной дзяўчынкі на госці хадзілі.

Пастанавіўшы, што сяброўства з Вужыным Каралём мусіць застацца таямніцаю для ўсіх іншых, Альдона гэтак і чыніла — інфармацыя пра незвычайныя падзеі ў ейнай хаце па-за межы Альдонінага пакоя не выходзіла. Але жыццё на тое і жыццё, каб змяняць многае да непазнавальнасці. Нават калі ты сам і падумаць пра тое не мог...

Неяк завітала Хрысціна да Альдоны. Гуляліся дзяўчынкі. Ажно пакуль у пакой не зазірнула Альдоніна мама ды не прапанавала падмацавацца згаладнелым сяброўкам. Абедзве пагадзіліся. Дый як, скажыце, не пагадзіцца, калі ў якасці падмацунку прапануюць смачныя лусцікі, свежыя булачкі ды духмяную гарбатку?

Такім чынам, сядзяць дзяўчынкі пры століку, перакусваюць. І раптам бачыць Альдона, як Хрысціна нібы скамянела, з разяўленым ротам пазіраючы некуды ў кут.

Альдона, зірнуўшы туды, адразу скеміла, што адбылося.

— Там... там... змяя! — прашаптала Хрысціна.

— Не палохайся,— супакоіла Альдона,— гэта мой сябра.

— Як — сябра?! — не магла ўцяміць Хрысціна.— Гэта ж змяя.

— Ну і што? — Пацепнула плечуком Альдона.

Сяброўка з жахам назірала, як гаспадыня пакоя ўзяла ў рукі хвастатае стварэнне. Наступныя хвілін дзесяць Хрысціна слухала самую дзівосную гісторыю з тых, якія яна чула. Яна нават не магла даць веры Альдоне, але чым далей, тым болей усведамляла, што ўсё гэта — праўда.

— Ну... гэта... нешта.— Пакруціла яна галавою.— У казцы гэткага не прыдумаеш. Я табе скажу, што каб на свае вочы не пабачыла, дык ніколі ты мяне не пераканала б. Ашалець можна! А чаго гэта ён закруціўся?

— Нешта сказаць хоча.— Усміхнулася Альдона, падносячы вужа да камп'ютара.

– ЖЫЦЦЁ ЯШЧЭ БОЛЕЙ НЕЗВЫЧАЙНАЯ РЭЧ ЗА ЎСЯЛЯКІЯ КАЗКІ. ВОСЬ ГЭТАК. ХРЫСЦІНАЧКА,– з'яўляліся літары.

— Фантастыка! — азвалася Хрысціна.

У найбліжэйшыя паўгадзіны яна пазнаёмілася з Вужыным Каралём, апавяла пра сябе, задала шмат пытанняў і крыху ачомалася.

— Але ж нам ніхто не дасць веры,— прагучала з ейных вуснаў тое, што мусіла прагучаць,— яшчэ горай, з нас жа ўсе смяяцца будуць.

– ЦЯПЕР ТЫ РАЗУМЕЕШ. ШТО ЛЕПЕЙ ДЛЯ ЦЯБЕ САМОЙ ЗАХАВАЦЬ УСЁ Ў ТАЯМНІЦЫ,– выстукаў Вужыны Кароль.

— Разумею,— згадзілася дзяўчынка,— інакш мяне назавуць манюкай.

— Ну вось,— зірнула на яе Альдона,— цяпер у нас таямніца на трох.

— Але ж вы дазволіце, каб я прыходзіла? — З надзеяй пераводзіла позірк з Альдоны на Вужынага Караля Хрысціна.

– ВЯДОМА,– адказаў вуж.– АД АЛЬДОНЫ Я ПРА ЦЯБЕ ЎЖО ДАЎНО ВЕДАЮ. ДЫЙ НААГУЛ. КАБ Я НЕ БЫЎ У ТАБЕ ПЭЎНЫ. ХІБА Ж ТАДЫ ТЫ МЯНЕ ПАБАЧЫЛА Б.

З таго часу Хрысціна часцяком завітвала да Альдоны, бо ў гэтым доме ў яе з'явіўся яшчэ адзін сябра — найнезвычайнейшы ў свеце.

Не, вы толькі падумайце, як усё хутка змяняецца! Здаецца, яшчэ зусім нядаўна ўсе школьнікі чакалі лета, з надзеяй прапальваючы вачыма календары. Магчыма, некаторыя чытачы тут зробяць заўвагу: «Чаму, маўляў, усе? Няўжо няма навучэнцаў і навучэнак, якія таго самага лета зусім не чакаюць? Ці хоць бы ставяцца да ягонага надыходу спакойна. Хіба няма-шака тых, хто любіць навучацца?»

А вось падумайце — ці сустракалі вы такіх людзей, хто не чакае лета? Зрэшты, так ці іначай, але летнія дзянёчкі праляцелі, не раўнуючы, страла, пушчаная з лука, і ўжо амаль месяц дзеці зноў чакалі лета.

Вядома, Альдона таксама ўваходзіла ў склад гэтага, так бы мовіць, войска. Але мы пра іншае. Неяк у тыя дні, калі восень расшчодрылася на свой найлепшы падарунак — бабіна лета, Альдона прачытала, што абвешчаны фотаконкурс «Жывая прырода». Каму іншаму, што гэтая тэма, што іншая — усё адно. Некаторыя нават і чытаць не будуць — тыя, хто да фатаграфіі абыякавыя.

А вось Альдона не такая. Фатаграфаваць яна любіла. Ужо гады тры, як фіксацыя ўпадабанага моманту сталася для яе не пустым гукам. І сябры пра тое ведалі, і бацькі. Здымаюць цяпер многія, але Альдона прасунулася ў фатаграфаванні далей за большыню аднакласнікаў. Нават намовіла бацькоў набыць ёй здымач. «З тэлефонам кожны здольны пстрыкаць!» — са смехам казала яна.

Бацькі набылі здымач. І цяпер дачка наводзіла аб'ектыў з большай адказнасцю. Дык вось, даведаўшыся пра конкурс, фатаграфіня, як яе часам жартоўна называў тата, пастанавіла абавязкова ўзяць удзел. Бо і прыроду, як вы ўжо зразумелі, яна таксама любіла. А калі абодва складнікі прысутнічаюць, дык іншага выйсця папросту не застаецца!

Тэматыка конкурсу такая, што ў некаторых удзельнікаў, пэўна, галава закруціцца: што ж абраць? Бо праявы прыродныя нас атачаюць з усіх бакоў. Нават у кватэры — асабліва калі які мятлік у акно заляціць. Як тое ўчора ўвечары надарылася. Пра гэта варта ўзгадаць. Сядзела сабе Альдона ды чытала пры настольнай лямпе. Вечар быў цёплы, фортка — адчыненая, а кніга — цікавая. Так што Альдона і не заўважыла нічога такога. Напачатку толькі пачула. А як узняла галаву, дык літаральна перад вачыма, вымалёўваючы колы вакол лямпы, лётала нешта дзіўнае. Крыху пазней тое дзіўнае стварэнне перасунулася да падваконня, дзе стаялі два вазоны. І вось, не перастаючы хутка-хутка махаць крыламі, нечаканы госць завіснуў над кветкамі, якія шчодра абсыпалі расліну, і разгарнуўшы даўгі хабаток, узяўся піць нектар. І галоўнае, усё гэта ў палёце, не сядаючы на кветкі! У першыя імгненні падавалася, што гэта калібры, нейкім цудам з тропікаў заляцелае ў Беларусь, завітала да Альдоны. Але ж не.

Да справы далучыўся Вужыны Кароль, які выстукаў інфармацыю: «ГЭТА НЕ КАЛІБРЫ. ГЭТА. МЯТЛІК. БРАЖНІК».

І сапраўды, прыгледзеўшыся, дзяўчынка зразумела, хто ж такі гэты самы госць напраўду. Тым вечарам у кватэру завітаў начны мятлік — бражнік, адзін з самых незвычайных мятлікаў. Альдона потым пра іх пачытала. І нават вызначыла, які менавіта бражнік частаваўся нектарам ейных кветак. Бэзавы, во як!

Але вернемся да нашае тэмы — конкурсу, прыроды і фатаграфавання. Паразважаўшы і так і гэтак, Альдона адсунула розныя іншыя варыянты, якія папросту пішчом лезлі, і абрала той, які і мусіў цяпер стацца асноўным. Крылы! Так-так. Як, мусіць, і кожнаму чалавеку, Альдоне хацелася лятаць, хацелася быць птушкай. Ды што казаць — яна і сны такія колькі разоў сніла, дзе яна разбягаецца з высокага пагорка, сэрца ейнае абмірае, а сама Альдона кідаецца наперад... і ляціць! Большага захаплення ані ў сне, ані наяве і не адчуеш. Дык вось невыпадкова яна бачыла крылы і на сваім фотаздымку. На тым самым, які і мае браць удзел у конкурсе, тым самым, які (а што, чаму не) і пераможа!

Да справы Альдона падышла паважна. Цэлы тыдзень яна намагалася падабрацца са здымачом да птушак. Каго толькі яна за тыя дні не пабачыла! Ад вераб'ёў да крумкачоў. Але ж мастацтва, да таго ж — фота, рэч не такая простая, як некаторым можа падацца. Нягледзячы на ўсе мужныя

намаганні, кадра-пераможцы не атрымлівалася. Птушкі зляталі альбо наўпрост у вырай, альбо як мага далей ад здымача і Альдоны. Здымкаў назбіралася нямала, але ўсё гэта было не тое, што пераможа, альбо хоць мецьме шанцы на поспех.

— Поўны адлёт,— страціўшы надзею, прамовіла Альдона пасля тыднёвых намаганняў-выпрабаванняў.

– НЕ ПЕРАЙМАЙСЯ. У МЯНЕ ЁСЦЬ НЕБЛАГАЯ ПРАПАНОВА. СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ТЫ НЕ БУДЗЕШ РАСЧАРАВАНАЯ І ШАНЦЫ НА ПЕРАМОГУ З'ЯВЯЦЦА ЦАЛКАМ РЭАЛЬНЫЯ,– як заўжды супакоіў і адначасна заінтрыгаваў Вужыны Кароль.

— Пра што гэта ты? — узняўшы голаў, даволі паныла і ў той самы час з пэўнай надзеяй запыталася Альдона.

Яна ведала, што ейны сябра дарэмна языком, то бок хвастом, мянціць не будзе.

– АПРАЧА АДЛЁТУ ПТУШАК ВЕЛЬМІ ЗНАЧНЫ ЯШЧЭ АДЗІН РУХ. УЗВІЖАННЕ,– дадаў ейны суразмоўца.– ДЗЕНЬ, КАЛІ ЎСЕ ЗМЕІ ГУРТУЮЦЦА, РАЗВІТВАЮЦЦА З СОНЦАМ, БЕЛЫМ СВЕТАМ І НА ЎСЮ ЗІМУ ІДУЦЬ У ЗЯМЛЮ.

— Адзін дзень? — удакладніла Альдона, раздумляючы пра нешта, ажно складка на лбе сабралася.

– ТАК. ДВАЦЦАЦЬ СЁМАГА ВЕРАСНЯ.

— Але ж! — Махнула рукамі дзяўчынка.— Тут за тыдзень птушку не злавіла, а ты за дзень прапаноўваеш змеяў злавіць. А гэта, ведаеш, найскладанейшы аб'ект на фатаграфаванне.

І праўда, нават той, хто ніколі не меў досведу фатаграфаваць паўзуноў, лёгка можа сабе ўявіць спецыфіку. Калі птушка, нават хуткая — гэта аб'ект, якому трэба ўзляцець, крыламі памахаць і гэтак далей, дык змяя — не паспееш вокам міргнуць, як яна ў траву ці ў карэнне якое шусне, і яе ніколі не пабачыш.

– ДЫК ЖА Ж ТЫ СА МНОЮ БУДЗЕШ,– супакоіў яе вуж.– КЛАДЗІСЯ СПАЦЬ. ЗАЎТРА ВЫПРАВІМСЯ Ў ЛЕС.

Сапраўды, згадзілася Альдона, калі ёсць добрая прапанова, ды яшчэ ад гэткага знаўцы-адмыслоўца — трэба пагаджацца. Да таго ж усё адно ўсе ейныя спробы скончыліся не надта добра...

— А гісторыю перад сном? — хітра ўсміхнулася яна.— Я без яе засынаць нязгодная.

– ДОБРА,– гледзячы на Вужынага Караля, можна было падумаць, што і ён усміхаецца,– АПАВЯДУ ТАБЕ ПРА ВЫРАЙ. ТОЛЬКІ НЕ ПТУШЫНЫ, ПРА ЯКІ ВЕДАЮЦЬ АМАЛЬ УСЕ. А ПРА ЗМЯІНЫ. ЦІ ЗГОДНАЯ, СПАДАРЫНЯ, ВЫСЛУХАЦЬ?

— Анягож! — Кіўнула галавою Альдона.— Спадарыня дае згоду.

Хацелася б, дарэчы, паглядзець на дзяўчынку ці хлопчыка, ды што — на дарослага, калі ён, вядома, не поўны ёлуп, хто б з іх адмовіўся ад гэткае прапановы!

– ТАДЫ СЛУХАЙ. АДБЫВАЕЦЦА ГЭТА НАСТУПНЫМ ЧЫНАМ. ПАЎЗЕ ЦЭЛАЯ ПРАЦЭСІЯ ЗМЕЯЎ. ЧАРАДА ЯШЧЭ ТАЯ. МАЛЫЯ, ВЯЛІКІЯ, МАЛАДЫЯ ДЫ СТАРЫЯ. УЯВІЛА?

— Ага...— Дзяўчо заплюшчыла вочы і занурылася ва ўяўленні.

– АЧОЛЬВАЕ ЗМЯІНУЮ ПРАЦЭСІЮ КАРОЛЬ-ВУЖ. НА ЯГОНАЙ ГАЛАВЕ КАРОНА. ДЫ НЕ АБЫ-ЯКАЯ, А ЗАЛАТАЯ. ЗІХЦІЦЬ, ПЕРАЛІВАЕЦЦА, АЖНО ВОЧЫ СЛЕПІЦЬ. А ЗА ІМ УСЕ ЯГОНЫЯ ПАДДАНЫЯ.

— А калі чалавек нейкі спаткае такую працэсію? — нецярпліва перапыніла апавядальніка дзяўчынка.

Фантазія ў Альдоны была зусім няkволая. Так што яна ўва ўсіх фарбах уявіла сабе незвычайнае відовішча.

– А НА ТОЕ ІСНУЕ СТАРАЖЫТНАЯ ЗАВЯДЗЁНКА. КАЛІ ЧАЛАВЕК СУСТРЭНЕЦЦА З ЗМЯІНЫМ ВЫРАЕМ І РАЗГОРНЕ

ПЕРАД КАРАЛЁМ АБРУС З ХЛЕБАМ-СОЛЛЮ. ПАКЛОНІЦЦА ДА ЗЯМЛІ. ТАДЫ КАРОЛЬ-ВУЖ. ПРАПАЎЗАЮЧЫ ПРАЗ АБРУС. У ПАДЗЯКУ СКІДАЕ З КАРОНЫ ЗАЛАТЫ РАЖОК.

— Уга… А навошта той залаты ражок?

– УЛАДАЛЬНІК ТАКОГА РАЖКА НАБЫВАЕ ВЯЛІКІ РОЗУМ. ЗДОЛЬНЫ АДГАДВАЦЬ ЧУЖЫЯ ДУМКІ. ЗНОЙДЗЕ ВЫЙСЦЕ І З НЯВЫКРУТКІ.

— Я абавязкова вазьму абрус! — Загарэліся-запалалі вочы ў Альдоны.

Перад ейнымі вачыма яскрава паўстала ўся сцэна, як яна, нізка схіліўшыся долу, разгортвае даўно падрыхтаваны абрус. І тады ўжо без эксклюзіўнага падарунка яна дакладна не застанецца. Цяпер засталося адно падумаць пра камплектацыю ўсім неабходным. Хлеб яна і ў краме набудзе, солі ўдома стае, а абрус Альдона возьме ў мамы. У яе ж у шафе іх цэлы стос складзены. Яна, як і належыць сапраўднай гаспадыні, іх цэлую калекцыю мае. Мама нават і не заўважыць. Да таго ж Альдона абрус потым верне…

– ТАБЕ НЕ ТРЭБА,– выцягнулі яе з мройлівых летуценняў пастукванні хваста па клавіятуры.– ТЫ І ТАК РАЗУМНАЯ. У ЦЯБЕ Ж ЁСЦЬ Я…

— Добра, я вазьму табе малака…

Апавядаць пра тое, як усё адбылося, мы не будзем, але варта зазначыць, што здымак атрымаўся шэдэўральны! І хоць на ім не было Вужынага Караля ў залатой кароне (не любіў ён фатаграфавацца!), затое былі вужы, якія стварылі літару Ў — найарыгінальнейшую літару беларускага алфавіта.

***Як Вужыны Кароль за колькі гадоў пасля згаданых (і шматлікіх незгаданых) падзеяў і прыгодаў ператварыўся ў закаханага праграміста***

Альдона вельмі любіла кветкі. Але не тыя, якія дораць, каб яны ў вазе пастаялі няшчасныя і загінулі. Альдона любіла сама саджаць кветкі, даглядаць іх і цешыцца з цуда, якое квітнее. На ейным лецішчы раслі светла-зялёныя шпажнікі, ружовыя касачы і флёксы, блакітны і чырвоны лён, ліловая фізастэгія, бардова-фіялкавы расходнік, мядовыя і мармеладныя гейхеры, памаранчавыя лілейнікі і малочныя ліятрысы. Яна нават гадавала космас — не кожнаму гэтак шанцуе. Раслі ў яе і сінія валошкі. Але аднойчы яна пабачыла ў краме пакецік з насеннем рознакаляровых валошак. Сэрца ў Альдоны моцна затахкала, і яна набыла кветкі, якіх ніколі не бачыла. І калі сеяла іхнае насенне ў родную зямлю, сэрца мацней тахкала, і калі з'явіліся першыя парасткі, і калі палівала, і палола, і чакала, пакуль расквітнеюць. Напачатку расквітнела фіялкавая валошка, тады — чырвоная, пасля — белая. А калі з'явілася ружовая кветка, Вужыны Кароль панюхаў і ператварыўся ў прыгожага хлопца. Што ў прыгожага, не гэтак і істотна. Бо галоўнае, што ён ператварыўся ў разумнага хлопца-праграміста. Нездарма ж каля камп'ютара жыў і малако піў.

Ружовая валошка адквітнела, але насенне ейнае засталося, і калі вы аднойчы пабачыце ў найзвычайнейшай краме пакецік з насеннем рознакаляровых валошак, набудзьце сабе. Магчыма, народзіцца і вашая ружовая мара.

***Малочна-вясельная паслямова***

Як і ўсе казкі, з малаком альбо без яго, гэтая казка завяршаецца вяселлем.

Альдона і Кароль закахаліся адно ў аднаго і шлюбам пабраліся. Разам з пярсцёнкам залатым у выглядзе вужа Кароль падараваў ёй камп'ютарную гульню «Малочны кактэйль для Вужынага Караля». Такія вось сучасныя падарункі.

Вядома ж, на тым вяселлі былі малочныя рэкі: і малако пілі, і кактэйлі малочныя, сырам-маслам-тварагом прыкусвалі. І мы там былі, за шчасце маладых малочны кактэйль пілі, і вам раім за шчасце шклянку малочнага кактэйля выпіць — са смакам казкі.

## ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

МАЛІШЭЎСКІ Яраш
СПРЫНЧАН Аксана

**МАЛОЧНЫ КАКТЭЙЛЬ ДЛЯ ВУЖЫНАГА КАРАЛЯ, альбо КАЛЯКАМП'ЮТАРНАЯ КАЗКА**

Рэдактар *Э. В. Карбановіч*
Мастацкі рэдактар *М. Ю. Дайлідаў*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*
Стылістычны рэдактар *А. М. Анцытовіч*

Падпісана да друку 23.09.2019.
Фармат 90×100 $^1/_{16}$.
Папера крэйдаваная.
Афсетны друк.
Умоўн. друк. арк. 9,13.
Улік.-выд. арк. 7,98.
Тыраж 1000 экз.
Заказ .

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013. Пр-т Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/102 от 01.04.2014. Пр-т Незалежнасці, 79, 220013, Мінск.



**Малішэўскі, Я.; Спрынчан, А.**

М19 Малочны кактэйль для Вужынага Караля, альбо Калякамп'ютарная казка / Яраш Малішэўскі, Аксана Спрынчан ; маст. Міхась Дайлідаў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2019.

ISBN 978-985-02-1899-5.

У гэтай казцы толькі частка казкі, а рэшта – праўда. Незвычайная гісторыя, якая здарылася са звычайнай дзяўчынкай, якая любіць камп'ютар і не любіць малако. Шчасце, калі цябе ёсць каму ратаваць, і шчасце, калі табе ёсць каму дапамагаць. Як заўжды Яраш Малішэўскі і Аксана Спрынчан шмат увагі надаюць не адно сучаснасці, але і беларускім традыцыям, легендам і паданням.

Казка складаецца з невялікіх гісторый, якія зручна чытаць нават таму, хто чытае мала, альбо таму, хто чытае шмат у кожную вольную хвілінку.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**